


# БАРАНАВІЦКАЕ СЛОВА

№ 6
СНЕЖАНЬ 1991 г.
КОШТ 40 КОП.

Жыве Беларусь!

ГАЗЕТА – ШТОМЕСЯЧНІК БАРАНАВІЦКАГА АДДЗЯЛЕННЯ ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ ІМЯ ФРАНЦІШКА СКАРЫНЫ.


## ПАВАЖАНАЕ СПАДАРСТВА! ВІНШУЕМ З НОВЫМ ГОДАМ

## Паведамленне Сойму БНФ «Адраджэнне»

На сьнежаньскім паседжаньні Сойму БНФ абмяркоўвалася ўнутранае й зьнешнепалітычнае становішча Беларусі пасьля падпісаньня белавескіх угодаў. Удзельнікі абмеркаваньня падкрэсьлілі, што садружнасьць незалежных дзяржаваў, абвешчаная ў Белавескай пушчы, – гэта часовае ўтварэньне, кампраміс процілеглых інтарэсаў Расеі ды Украіны. Калі для Расеі, і гэта заявілі яе лідары на сэсіі ВС РСФСР, новае пагадненьне – апошні шанц захаваньня адзінства рэспублік, г. зн. аднаўленьня імпэрыі, дык для Украіны садружнасьць – зручны й досыць бесканфліктны шлях да поўнай незалежнасьці.

Кіраўніцтва ж Беларусі ня мае канцэпцыі беларускай палітыкі, ня бачыць пэрспэктывы, не жыве інтарэсамі беларускай дзяржавы й яе народу. Таму Беларусі ў навястворанай садружнасьці адводзіцца службовая роля ў рэчышчы інтарэсаў Расеі.

Удзельнікі абмеркаваньня віталі фактычны канец існаваньня СССР і структураў Цэнтру – асноўнай крыніцы нестабільнасьці на тэрыторыі былога Саюзу. У новай сытуацыі Беларусь магла б рэалізаваць магчымасьць стаць на незалежны шлях разьвіцьця. Але з розных прычынаў – прыналежнасьці да намэнклятурных кланаў, арганічнай няздольнасьці браць на сябе адказнасьць за лёс краіны – ані Саўмін, ані Вярхоўны Савет, ані іхнае кіраўніцтва ня здольныя ўратаваць Беларусь і ўзяць прыклад хаця б з прэзыдэнта Краўчука.

Таму надзённай унутрыпалітычнай задачай Фронту, усіх дэмакратычных сілаў застаецца лінія на адстаўку ўраду Кебіча й на новыя выбары ў вышэйшы орган улады Рэспублікі. Толькі Урад Народнага Даверу й новы Вярхоўны Совет (ці Сойм) будуць у стане весьці палітыку ў інтарэсах народу Беларусі, не дапусьцяць, каб наша рэспубліка стала чужой каленіяй, аплочвала чужую безгаспадарчасьць, чужыя імпэрскія амбіцыі, карміла тых, хто ня можа пракарміць сам сябе.

Сойм ухваліў падыход і практычныя захады Апазыцыі БНФ у Вярхоўным Савеце ў дачыненьні да белавескіх пагадненьняў. Беларусі патрэбна ствараць свае войска на аснове армейскіх злучэньняў, што знаходзяцца на нашай тэрыторыі. Наша краіна мае законнае права на долю ўсіх каштоўнасьцяў і маёмасьці былога СССР, у тым ліку залатога запасу, флёту й г. д. Менск павінен стаць ня цэнтрам бюракратычных структураў эфэмэрнай садружнасці, але сталіцай незалежнай Беларусі. Стратэгічны шлях нашай краіны – вызваленьне ад імпэрскіх путаў й вяртаньне ў Эўропу.

14 снежня 1991 г.

## ПРЫКМЕТЫ РОЗУМУ Ў УСХОДНІХ СЛАВЯН

У Белавежскай пушчы прадстаўнікі ўсходняга славянства, верагодна, вывучалі норавы звяроў і высвятлілі, што нават у воўчай зграі суродзічы загрызаюць свайго вельмі рэдка. Чаго не скажаш аб адносінах трох „брацкіх" народаў – расейскага, украінскага і беларускага.

У эпоху Кіеўскай Русі славяне жылі хужэй як ваўкі – але то быў час такі.

Потым больш цывілізавана і памяркоўна вялі сябе мы – літвіны-беларусы. Разумнае ўнутраннае будаўніцтва нашай дзяржавы не заахвочвала жыць рабаваннем чужых народаў і не было мэты знішчыць тую ж Маскоўскую дзяржаўнасць. Ягайла вёў палкі на Кулікова поле, але потым чамусьці перадумаў. І хоць Дзьмітры Данскі увесь бой прасядзеў пад зваленай бярозай, перамога была над татарамі, каторыя праз кароткі час разбурылі Маскву.

Перад гэтым Вітаўт разбіў татараў пад Жоўтымі Водамі. У выніку гэтага ўкраінцы былі вызвалены ад татарскай залежнасці.

Так што сілы ў нас былі, але нашы інтарэсы не распаўсюджваліся далей нашых племянных зямель.

І ў 1612 годзе таксама не было мэты знішчаць расейскую дзяржаўнасць, а была спроба далучыць Расею ад Еўропы. Мы ў асноўным, а не палякі, хацелі пасадзіць Лжэдзмітрыя на расейскі трон. Мы яго спецыяльна выхоўвалі ў Брагіне. Не атрымалася – тым хужэй для расейцаў. Праз 400 гадоў значная частка расейцаў хочуць стаць Еўропай добраахвотна.

У сярэдзіне ХУІІ стагоддзя расейцам у драпежніцкай палітыцы паявіўся памагаты. Гэта Запарожскае казацтва – гэты інтэрнацыянальны зброд, камуністы ХУІІ стагоддзя. Расейцы і казацтва сталі грабіць і ўкраінцаў і літвінаў-беларусаў – і адкінулі нас у развіцці на стагоддзі назад. Тады быў загублены кожны другі беларус. Але ж і тады мы выжылі.

У канцы ХУІІІ стагоддзя, пры падзелах Рэчы Паспалітай украінскае казацтва спадзявалася быць дваранамі над беларусамі, знішчыўшы нашу шляхту. Але ў расейцаў саміх была „губа не дура" – замест беларускага шляхецтва расейцы перасялілі іх на Кубань.

Украінай, як і Беларуссю, сталі распараджацца расейцы. Усё ХІХ стагоддзе мы і Валынь паўставалі. Украінцы жылі больш вольна. І ўсё роўна яны хочуць быць „самостійнымі" без двукосся.

Канешне, мы вітаем іх памкненні. 52-х мільенны народ, самыя лепшыя землі, а размаўляюць не на сваёй мове, у літаратуры і жыцці ім адведзена роль лакея расейскага памешчыка ці яфрэйтара ў расейскага камісара.

Нас жа расейцы увесь час хацелі знішчыць як народ. Але мы глядзелі на іх цвяроза і змагаліся, ці маўчалі і чакалі. Не было ў нашай гісторыі ні Багданаў Хмяльніцкіх, ні малдаўскіх Канцеміраў, ні грузінскіх Багратыёнаў, ні латышскіх стралкоў, ні „пламенных революционеров". А былі ў нас Тадэвуш Касцюшка, Адам Чартарыйскі, які стаў міністрам замежных спраў Расейскай Імперыі, але калі выбухнуло паўстанне 1831 г., адразу ж падаўся ў паўстанцы. Былі ў нас Агінскія, Сапегі, Радзівілы, у якіх забіралі маёнткі і ўладу за ўдзел у паўстаннях, але яны не ішлі на паклон. Быў у нас Кастусь Каліноўскі і Ігнат Грынявіцкі.

І першымі сакратарамі аж да нядаўняга часу ў нас правілі расейцы, яны помсліва распараджаліся нашымі землямі і нашым лесам. Але ж мы выжылі.

І мы вітаем Белавежскія пагадненні. Хоць мы фактычна і не былі заснавальнікамі Саюза 1922 года, але добра, што і мы яго развалілі. Гэта замацоўвае нашу незалежнасць.

І можа цяпер усходнія славяне зажывучь па- чалавечы, а не па звярыным законам. Дай бог. Прыкметы розуму паявіліся ў адносінах паміж „брацкімі" народамі – гэта заключанае пагадненне аб „Садружнасці незалежных дзяржаў".

А. БЛІНКОЎСКІ.

## Глупства ці правакацыя?

### КАРЭСПАНДЭНТ ЗВЯРНУЎСЯ ДА ДЭПУТАЦКАЙ АПАЗІЦЫІ:

Паважаныя спадары!

Пажадана было б, как Вы паразважалі аб факце выбараў старшыней камісіі па гандлю Баранавіцкага гарсавета спадара Бяляева, прадстаўніка апазіцыі.

Большасць жа ў асобах Лабко і яго акружэння – гэта тыя людзі, якія правілі ў Баранавічах і да 1985 года. У 1985 годзе яны пачалі з шашлыкоў і на цяперашні час яны вынішчылі і вытапталі Баранавічы і акругу. Дашло да таго, што каб купіць пляшку гарэлкі чалавек павінен стаяць усю ноч. І ў чэргах ужо хтосьці распускае плеткі, што вінаваты Бяляеў, хоць ён і не быў да гэтага старшыней камісіі па гандлю. Да гэтага часу апазіцыя не магла надрукаваць у газеце „ Наш край" нават матэрыялаў аб злоўжываннях у гандлі, а тут такі пасаж.

З-за таго, што выканаўчая ўлада ў руках Лабко, Бяляеў не будзе ўплываць на ход падзей. Лабко і яго акружэнне будуць ківаць на апазіцыю, а праз апазіцыю і на ўсіх дэмакратаў, што гэта яны вінаватыя ў цяпэрашнім жабрацтве і чэргах.

Карацей кажучы, прашу паразважаць аб тым, што значыць узначаленне Беляевым каміссіі па гандлю – гэта глупства апазіцыі ці правакацыя кіруючых?

### АДКАЗ:

З самага пачатку працы гарадскога Савета нам, дэпутатам Баранавіцкага дэпутацкага клуба, стала зразумела, што ніякіх значных радыкальных перамен ні ў жыцці горада, ні ў жыцці рэспублікі не адбудзецца. Вытворча-партыйная наменклатура, складаючая большасьць у Саветах усіх узроўняў, няхай і моўчкі, але трывала і ўпэўнена трымае ўладу ў сваіх руках.

Прайшоўшыя выбары ў Саветы былі дэмакратыяй упэўнена прайграцы. У гэтым я бычу дзве асноўныя прычыны. Першая – недасканаласць закона аб выбарах, дзякуючы катораму выбары ўсё яшчэ працягваюцца. Другое – абыякавасць нашага народа да таго, хто атрымае дэпутацкі мандат.

Цяпер атрымліваецца, што меншасць, якая ўносіць на разгляд тую ці іншую прапанову на змяненне існуючых парадкаў, законаў, маўклівай большасцю блакіруецца і не прымаецца нават да разгляду.

Такіх прыкладаў можна прывесці шмат, у тым ліку і па нашаму гораду.

Гэта і зварот рабочых, які быў надрукаваны ў газеце „Наш край" у другой палове мінулага года, дзе ішла размова аб аб'яднанні гарадскога і раённага Саветаў і іх выканкомаў; зварот некалькі сотняў гаражан да гарадской сесіі з патрабаваннем правядзення агульнагарадскіх выбараў мэра горада пасля прыняцця закона аб мясцовым самакіраванні; зварот да рэспубліканскага парламента з патрабаваннем аб тым, каб нашы беларускія хлопцы праходзілі вайсковую службу ў межах рэспублікі, а не закрывалі сабой гарачыя кропкі ўжо не існуючага Саюза; прапанова пастаяннай дэпутацкай камісіі па гандлю, а таксама шэрагу дэпутатаў дэпутатцкага клуба аб арганізацыі з другога паўгоддзя 1991 года гандлю віна-гарэлачнымі вырабамі па метаду харчовых картак.

Нічога гэтага ў свой час не было пачута, ці не хацелася быць пачутым, ні кіраўніцтвам выканкама, ні Прэзідыумам гарадскога Савета, ні большасцю дэпутатаў, не гледзячы на тое, што час зноў прымушае вяртацца да гэтых пытанняў.

Нашым дэпутатцкім клубам не адзін раз абмяркоўвалася пытанне аб мэтазгоднасці нашага прыбывання ў складзе гарадскога Савета.

Былі прапановы, выказаўшы матывы сваёй магчымасці і бескарыснасці прыбыванне ў гарадскім Савеце, выйсці з яго складу.

У гэтых разважаннях, на карысць таго каб застацца ў складзе Савета, верх бяруць два наступныя важкія довады: першае – гэта тое, што на наша месца прыдуць усе тыя ж наменклатурныя апаратчыкі (пры існуючым законе аб выбарах), што ні да якога паляпшэння не прывядзе; другое – трэба весці барацьбу за вынікі наступных выбараў, каб людзі не былі абыякавы хто прыдзе ў Саветы наступнага склікання, каму аддаць свой голас.

Цяпер у мяне склалася такое ўражанне, што дэпутаты нашага клуба, апазіцыі гарадскога Савета выступаюць у ролі агароднага „пугала", каторае няхаў і не вельмі эфектыўнаа, але ўсё ж такі палохае работнікаў гандлёвых установ і быта. Але гэта толькі на узроўні працаўнікоў і загадчыкаў магазінаў, усе кіраўніцтва гандлю для нас недасягальна.

Сенняшняя улада, а гэта члены выканкама, Прэзідыум гарадскога Савета, службы выканкама падабраны па старых наменклатурных сувязях. Гандлёвыя прадпрыемствы ў сваю чаргу, у тым ліку ваенгандаль, ОРС-НОД-2, каапгандаль увогуле не спаваздачны ні Савету, ні яго ваканкаму. Хутчэй наадварот, яны дыктуюць уладам сваі ўмовы, таму што ў іх руках усе матэрыяльныя і харчовыя рэсурсы. Абвінавачваць ва ўсім толькі аднага старшыню выканкама Лабко М. М. недарэчна, ён выконвае волю той сістэмы, якая яго ўзрасціла. Характэрным прыкладам з'яўляецца дзейнасць мэра г. Масквы Г. Папова. Пэўная група дэпутатаў і кіраўнікоў абрала ўгоднага сабе старшыню і ён воляў ці няволяй павінен весці іх палітыку. Што датычыць абвінавачвання ў адрас камісіі па гандлю, то гэта робяць людзі якія не чытаюць мясцовых газет, не цікавяцца тым, што адбываецца на сесіях гарадскога Савета, а ганьбяць усіх і ўсё.

Дэпутаты ад апазіцыі праводзяць сустрэчы з выбаршчыкамі, дастаткова дакладна выказваюць свае пазіцыі на сустрэчах, на сесіях і па магчымасці, у мясцовым друку.

З усіх камісій гарсавета, камісія па гандлю і паслугах насельніцтву хоць што-небудзь, але ж спрабуе рабіць. Даволі часта ў адказ на сваю работу дэпутаты чуюць абразы з боку ўладу маючых кіраўнікоў горада.

Некаторыя „чыстыя" дэмакраты мяркуюць, што апазіцыя толькі і павінна стукаць дзвярамі і прынімаць у штыкі любыя прапановы з боку выканакама ці Савета. Святаслаў Рэрых гаварыў прыкладна так: „Пачкаючы другіх, сам бялейшым не станеш". Вышлі б дэпутаты апазіцыі з камісіі гарсавета, у тым ліку і гандлёвай, іх месцы былі ў гэты ж час заняты другімі, памяркоўнымі дэпутатамі і наступіла б у горадзе цішыня, супакой і божая „благадаць".

У заключэнне яшчэ раз паўтаруся, што не сённяшнім этапе ніякіх радыкальных перамен ні ў горадзе, ні ў рэспубліцы не можа быць, пакуль не будзе прыняты новы закон аб выбарах і не адбудзецца замена структур улады згодна новага закона.

Час добрых і таленавітых „правадыроў" прыйшоў. Свой лёс народ павінен вырашаць сам.

Намеснік лідэра апазіцыі,
Народны дэпутат гарсавета
М. СЕВЯРЦАЎ

# ХТО ПРАВІЦЬ БАЛЬ?

Дзе яшчэ ў свеце, скажыце, напісаны ў газету дэпутатамі артыкул аб парушэнні закона будзе замест друкавання накіраваны на так званае „реагирование" у выканкам, дзе пасля месячнага разгляду яго старшыня Лабко М. М., такі ж дэпутат, напіша: „считаем целесообразным использовать полосы газеты для более существенного материала?"

Дзе яшчэ за сустрэчу з дэпутатамі штрафуюць іх выбаршчыкаў (Шута, Свістуновіча)?

Дзе яшчэ, у якой рэспубліцы, дэпутаты не маюць закона аб статусе дэпутата наогул? Чаму яго не прыймаюць?

А усё гэта магчыма ў нас таму, што ўлада як была раней, так яна і засталася ў былой партыйнай наменклатуры, вельмі шчыльна магутнымі каранямі звязанай паміж сабой.

Нагадаю нядаўняе пасяджанне прэзідыума гарсавета па звароту Баранавіцкага дэмакратычнага дэпутацкага клуба аб выдзяленні памяшкання для сустрэчы з выбаршчыкамі. На сустрэчу мы запрасілі дэпутатаў Вярхоўнага Савета РБ ад г. Баранавічы, бо менавіта там зараз вырашаецца наш далейшы лёс, лёс нашых дзяцей і ўнукаў. Напярэдадні далі згоду прыехаць і некалькі дэпутатаў ад апазіцыі БНФ у ВС РБ.

Можна было б не засяроджваць асаблівую ўвагу на гэтым паседжанні, але ж яно яскрава адлюстроўвае вышэй сказанае.

Паўтары гадзіны былыя гаркамаўцы, а цяперашнія „нефармалы", Лабко і Венцаль даказвалі нам, што не патрэбна зараз сустрэча з дэпутатамі ВС і асабліва з апазіцыяй БНФ, што мы (дэпутацкі клуб) не маем права (!) арганізоўваць такія сустрэчы. А спадар Лабко дагаварыўся да таго, што заявіў наступнае: „Зачым нам дэпутаты ад апазіцыі БНФ, у нас сваіх хапае, але калі вы хочаце сустрэцца з імі, то запрашайце іх да сябе дамоў".

Прыйшлося напомніць паважаным Лабку і Венцаль, што яны маюць справу не з грамадскай арганізацыяй, ці з прыпыненай Законам арганізацыяй бальшавікоў, а з дэпутатамі. Ўрэшце рэшт залу вылучылі, але „толькі для сустрэчы з дэпутатамі Севярцавым, Бяляевым, Гоўшам ды Корабам". Але нічога дзіўнага няма, бо давайце глянем, хто ж ц Прэзідыўме:

Сп. Бужак – сакратар гаркама камсамола, малодшага брата партыі;

сп. Захарчанка – другі сакратар гаркома былой КПСС, цяперашні арганізатар Баранавіцкіх нэакамуністаў;

сп. Старавойтаў – былы старшыня народнага кантролю, член бюро гаркама былой КПСС;

сп. Венцаль – нядаўні ідэелаг гаркама былой КПСС;

сп. Лабко – нядаўні другі сакратар былой КПСС;... і г. д.

Дык вось хто па-ранейшаму намі кіруе, хто нават такіх дэпутатаў, як самі, хацелі б трымаць на ланцугу, загнаць у свае акопы з якіх яны толькі што павылазілі зноў, хто бессаромна штрафаваў нас за бел-чырвона-белыя сцягі, а зараз самі кіруюць пад імі, хто давёў краіну да галечы, але зубамі трымаюцца сваіх пасад. Бо дзе ж яшчэ сп. Лабко мог бы так хутка пабудаваць сабе дачу з гаражом, склепам ды лазняй, а сп. Венцаль атрымаць у абход Закона двухпакаёвую кватэру і г. д.

І усё ж сустрэча ў вялікай зале гарвыканкама адбылася. Цікавая сустрэча. Аб рабоце Дзяржзнака, аб увядзенні купонаў у 1992 годзе распавядаў дэпутат там ВС ад Баранавіч, кіраўнік Дзяржзнака сп. Слабчанка. Аб пераходзе да рынку, аб будучай прыватызацыі, аб рабоце Вярхоўнага Савета выказаўся дэпутат ад апазіцыі БНФ у ВС РБ, член планава-бюджэтнай камісіі ВС – спадар Беленькі Ю. А. Інфармацыю аб рабоце Мінскага гарадскога Савета, аб каардынацыі дзейнняў дэмакратычных сіл Брэсцкай вобласці зрабіў дэпутат Мінгарсавета сп. Куневіч Г. Г.

На сустрэчы выступілі таксама члены дэпутацкага клуба г. Баранавічы.

Запрошаныя дэпутаты ВС РБ ад Баранавіч, акрамя Слабчанкі, на сустрэчу не з'явіліся. Не прыйшлі члены гарвыканкама, старшыня гарсавета Лабко, яго намеснік Венцаль, якія былі запрошаны мной асабіста. Гэта ніжэй іх гонару.

Глыбока... Ім на вашу боль, на вашы справы, паважаныя спадары. Дык што, скажам ім дзякуй?

**Дэпутат абласнога Савета Сяргей Гоўша.**

# КАМУ ЗАКОН НЕ ПИСАН

Ни для кого не будет секретом, что наше законодательство в основном отстает от жизни, несовершенно. Примеров тому можно привести огромное количество. Но мы хотим остановиться лишь на одном – это паспортный режим. Даже для старшеклассников ясно, что прописка является пережитком крепостного права, существующим по настоящее время. И тем не менее, если этот закон не отменен и действует, то его обязаны выполнять все без исключения.

Но есть в городе такие органы, которым закон не писан, это городской исполнительный комитет. 22.06.87 г. в отдел экономического и социального развития города на должность старшего инженера принимается Селява Алла Дмитриевна, которая занимается учетом и распределением легковых автомобилей по организациям и предприятиям города. После реорганизаций в структурах городского исполкома Селява А. Д. переведена специалистом по ведению протокольной части, в связи с сокращением вышеуказанного отдела, и продолжает заниматься учетом легковых автомобилей.

По ответу, полученному в мингорсправке, оказалось, что Алла Дмитриевна проживает в г. Минске по ул. Лынькова, а из Барановичского адресного бюро при ГОВД получена справка, что Селява Алла Дмитриевна прописанной в городе не значится.

Вот тебе и исполнители Советской Власти!

Неужели не проверяли документы при приеме на работу, при сокращении отдела и переводе? Не верится? И нам тоже.

**Депутат Брестского областного Совета С. ГОВША.**

**Депутат городского Совета С. КОРОБ.**

Депутатам Говше С. К. и Коробу С. С. по поводу их заметки „Кому закон не писан?" даны в устной форме необходимые разъяснения.

Действительно, в данном случае имело место нарушение статьи Ко АП БССР, однако должностные лица, допустившие это нарушение в горисполкоме давно уже не работают. Т. Селява А. Д. предложено привести в соответствие прописку по месту проживания.

Кроме этого, не совсем понятно на что хотят обратить внимание авторы заметки: на нарушение паспортного режима или причастность т. Селява А. Д. к распределению рыночного фонда легковых автомашин.

Последнее в ее функциональные обязанности не входило и не входит.

Учитывая вышеизложенное считаем целесообразным использовать полосы газеты для более существенного материала.

**Председатель городского Совета Н. Н. ЛОБКО.**

**Каментар**

**Як стала вядома пазней, Селява Ала Дзьмітрыўна ў цяперашні час з'яўляецца старшыней прафсаюзнай арганізацыі гарвыканкама і выпраўляць свае нелады з заканадаўствам пакуль не збіраецца.**

**Рэдактар газеты „Наш край" А. Валынец знаходзіцца ў прамой залежнасці ад кіраўніцтва гарвыканкама і друкуе ў газеце матэрыялы, толькі з пазвалення Н. Лабко, каторы да гэтай пары не можа забыць прыемныя ўспаміны аб уседазволенасці на пасадзе другога сакратара гаркама партыі.**

**С. КОРОБ.**

## ХОДЗЯЦЬ ЧУТКІ ПА БАВАЎНЯНАМУ...

**што былы работнік гарвыкама партыі, былы сакратар парткама спадар Салаў'ёў укінуўся ў пекла, бізнеса, зрабіў малое прыватнае прадпрыемства па пашыву адзежы.**

**І што цяперашні гаспадар пакуль яшчэ дзяржаўнага прадпрыемства ВБПА спадар Страхаў прадаў свайму былому партшэфу 20000 метраў тканіны па дзяржаўнай цане.**

**І што ў свой час спадар не прадаў калекам з Ганцавічаў 5000 метраў тканіны для арганізацыі працы інвалідаў.**

**Па якой цане і дзе прадае свае вырабы спадар Салаў'еў ніхто не ведае. Ўсе гадаюць.**

**Цікава і ведаць на якім абсталяванні і ў якім месцы шьецца адзежа із дзяржаўнай тканіны – так усюды гавораць. Можа гэта недобразычліўцы нападаюць на былога лідэра камуністаў.**

**Спадзяемся на тлумачэнне гэтага з боку народнага дэпутата СССР Віктаровіча, падаткавай інспекцыі і самога спадара Салаў'ева.**

# НА РАЗДАРОЖЖЫ

*Із пад абломкаў імперыі зноў вылазяць камуністы, каб доўжыць свае злачынствы. Але ёсць і другі шлях.*

*Малюнкі Сымона СВІСТУНОВІЧА.*

# А НА СЕСІІ...

16 снежня адбылася чарговая сесія гарадскога Савета народных дэпутатаў, которая разам з арганізацыйнымі пытаннямі заслухала інфармацыю загадчыка гандлёвым аддзелам гарвыканкама спадара Шчэрбука В. В. Нягледзячы на прапановы дэпутатаў ад апазіцыі, аб справаздачы аб дзейнасці загадчыка аддзелам, дэпутацкая большасць прагаласавала за інфармацыю.

Жыхары горада помняць „10 дней", якія траслі горад і трасуць далей у пытаннях гандлю віна-гаразлачнымі вырабамі.

Дэпутаты Бяляеў і Емельянчык прапанавалі выказаць недавер спадару Шчэрбуку. Але ў сваім выступе старшыня савета, дэпутат Лабко М. М. сказаў, што дзейнасць загадчыка аддзелам гандлю заслугоўвае ўхвалення і распаўсюджанне дасягненняў па ўсёй рэспубліцы і на яго месца няма „достойной" кандыдатуры.

Пасля таго, як дэпутат Севярцаў М. А. прапанаваў, што калі нельга выразіць спадару Шчэрбуку недавер, то давайце яго узнагародзім, вядучы згадзіўся на заўвагу. А далей як у анекдоце.

У пацверджэнне „хорошей" работы гандлю ў горадзе праз 30 мін. пасля заканчэння сесіі група дэпутатаў знайшла ў магазіне № 47 ОРСа НОД-2 (дырэктар торга, зараз намеснік старшыні гарсавета Калюта І. С.) 180 скрынак віна на суму 35100 рублёў, каторае адсутнічала ў свабодным продажу.

**Намеснік старшыні камісіі па гандлю С. КОРАБ.**

**— Выбаршчыкам трэба задумацца, ці патрэбна распаўсюджваць вопыт Лабко-Шчэрбука-Калюты ў Баранавічах і па ўсёй Беларусі, ці можа непатрэбны такія дэпутаты-кіраўнікі?**

# З пошты газеты

Я ўжо каторы раз хаджу на сустрэчы з нашымі дэпутатамі, часцей за ўсіх – з дэпутатам Віктаровічам А. А., народным дэпутатам былога СССР. І мне бывае вельмі сорамна, калі з боку БНФ, у склад якого ўваходжу і я, амаль кожны раз чуюцца выказванні, якія ставяць пад сумненне шчырасць і кампетэнтнасць дэпутацкай дзейнасці Віктаровіча А. А. Я не знаёмы з Віктаровічам А. А. асабіста і дзеля мяне ён асабіста нічога не рабіў як дэпутат. Але я бачу, што гэта самы сапраўдны народны дэпутат. Так, ен просты рабочы, у яго няма за плячыма акадэміі ці інстытута, ці якой іншай вышэйшай адукацыі, але як ен выконвае свае абавязкі, гэтаму можа пазайдросціць акадэмік ці прафесар. Мне сорамна, што сябры Народнага фронту перашкаджалі яму. Мы хадзілі агітаваць няма ведама за каго, за тых, якія цяпер і не глядзяць у бок простага люду. Так, напрыклад, Мартас. Ён добры урач і яшчэ хто-небудзь, толькі не дэпутат. Гэта ўсім добра вядома.

Часам папракаюць Віктаровіча А. А., што ён дрэнны палітык, але якія ж мы палітыкі, калі мы не можам падняць наш народ на барацьбу з мафіяй і бюракратыяй, злодзеямі і спекулянтамі. Змагаецца толькі маленькая група дэпутатаў, у тым ліку і Віктаровіч А. А., якому мы не дапамагаем, а толькі кусаем ды абліваем граззю. Ды якое мы маем права ад усяго Народнага фронту заяўляць гэта. Што, хіба на „Баваўняным камбінаце" няма людзей, якія падтрымліваць у той час і Народны фронт і Віктаровіча? Тым больш, што тады, ў 1989 годзе, калі былі выбары народных дэпутатаў СССР, амаль увесь народ падтрымліваў Народны фронт. Прашу Вас, заклікаю, ніколі не ганьбіць такіх дэпутатаў, як Віктаровіч А. А., гэтым мыт толькі спрыяем ворагам народа, жулікам і спекулянтам.

Мы павінны вучыцца быць чулымі і паважлівымі адзін да другога, вучыцца культуры паводзін, а гэткімі выхадкамі мы заганяем сябе яшчэ ў больш цёмны вугал, адкуль ужо зусім цяжка выбрацца. Зладзействы і анархія дыхаюць на нас у кожнай краме, у кожнай чарзе.

**Тамара ЗВЕРАВА.**

# Дом „Радзівілаў“



*Фрагмент фасада палаца Радзівілаў у Паланэчцы.*
*Здымак В. КАРЛІНСКАГА.*

З існаваннем Вялікага княства Літоўскага, Беларуска-Літоўская дзяржавы, непарыўна зьвязана жыцьцядзейнасць шмат якіх магнацкіх дынастый. Сярод іх ганаровае месца займаюць Радзівілы. У нас, на Беларусі, яшчэ недастаткова напісана, як аб Радзівілах, так і аб іншых магнацкіх родах, аб іх ролі ў старажытнай гісторыі Беларусі. Таму прыходзіцца зьвярнуцца да кніг, выдадзеных у Польшчы ці Летуве. Адной за такіх кніг з'яўляецца твор Станіслава Мацкевіча „Дом Радзівілаў", выдадзены ў Варшаве на польскай мове ў 1990 г. Пры знаёмстве з гэтым творам варта ўлічваць, што яго аўтар ацэньвае дзейнасць славутага рода з пункту гледжаньня польскага гісторыка. Вядома, што пункт гледжаньня гісторыкаў-беларусаў і ўвогуле сьвядомых беларусаў на падзеі, апісанныя ў кнізе, у шэрагу выпадкаў будзе іншым.

Адкуль жа паходзяць Радзівілы? Аутар кнігі, спасылаючыся на кракаўскага гісторыка Длугаша, прыводзіць наступнае паданьне. Вялікі князь Віцень, старэйшы брат славутага Гедыміна, будучы на паляваньні па-над ракой Віліяй, непадалёку ад пазьней заснаванага. места (горада) Вільні, учуў плач дзіцяці, якое знаходзілася ў арліным гнязьдзе. Па паданьню гэта быў малодшы сынок літоўскага князя Нарымонта, забітага сваім братам Даўмонтам. Віцень з'літаваўся й узяў з сабой малое дзіця. З цягам часу Ліздэйка, так яго назвалі, стаў вярхоўным жрацом усёй тагачаснай Літвы (як вядома тагачасная Літва займала паўночна-заходнюю частку Беларусі й тэрыторыю сучаснай Віленшчыны; на ей панавала паганьства).

Прозьвішча Радзівіл упершыню фігуруе ў дакументах з 1401 г., калі ўнук Ліздэйкі Вайшунд, як начальнік літоўскіх войскаў, падпісаў ўнію Літвы з Польшчай у Вільні. Хаця гісторыкі пагаджаюцца з літоўскім паходжаньнем Радзівілаў, тутака не да канца усё зразумела, таму што слова „Радзівіл", верагодна, паходзіць ад беларускага „рада – радзіць". І Радзівілы згодны з лягендай аб тым, што продак „радзіў" Гедыміну заснаваць Вільню.

За ўсю сваю гісторыю дынастыя Радзівілаў адыграла вялікую ролю ў Вялікім княстве Літоўскім. Яе прадстаўнікі займалі такія высокія пасады, як канцлер і гетман, аказвалі значны ўплыў на рэлігійнае жыццё, вылучаліся вайсковым талентам у бітвах з захопнікамі. С. Мацкевіч дае характарыстыку й распавядае пра дзейнасць Барбары, Мікалая Чорнага, Альбрэхта Станіслава, Кароля й іншых Радзівілаў. Цікавай з'яўляецца ацэнка С. Мацкевіча, дадзеная Янушу Радзівілу, вядомага нам усім па „Патопу" Генрыха Сянкевіча. У адрозьненьні ад Г. Сянкевіча й большасці гісторыкаў Польшчы С. Мацкевіч ня лічыць Януша Радзівіла здраднікам. З пункту гледжаньня на гісторыю Вялікага княства Літоўскага, як дзяржавы-папярэдніцы Рэспублікі Беларусь, постаць Януша Радзівіла заслугоўвае асаблівай увагі. Януш Радзівіл – гэта такі дзяржаўны дзеяч, які імкнуўся аднавіць поўную незалежнасць Вялікага княства Літоўскага, але, як мы ведаем, мэты ягоныя ў 17 стагоддзі ня спраўдзіліся. Зыходзячы за той ролі, якую адыграў Януш Радзівіл у гісторыі нашай Бацькаўшчыны, надышоў час ушанаваць яго імя на Беларусі.

З цягам часу Радзівілы, дзякуючы сваёй шматбаковай дзейнасьці, сталі адным з наймагутных родаў ня толькі Рэчы Паспалітай, але й Еўропы. Аб гэтым можна мяркаваць па тых лічбах з кнігі праф. Эйгарна, якія прыводзіць С. Мацкевіч. Згодна гістарычным зьвесткам у 1750 г. Радзівілы мелі 23 абарончыя замкі, 426 местаў і мястэчак; 2032 маёнтка, 10053 вёскі. Радзівілы мелі маёмасць і зямлю па ўсёй Рэчы Паспалітай. На тэрыторыі сучаснай Беларусі дзейнасьць Радзівілаў зьвязана з Мірам, Нясвіжам, Слуцкам, Клецкам, Давыд-Гарадком, Крупкамі й інш.; Летувы-Вільняй, Біржамі (Біржай), Кейданамі (Кейдайняй). У Баранавіцкім раёне, у вёсцы Паланэчка, існуе палац, пабудаваны Радзівіламі.

Як паведаміў „Л І М" ад 20.12.91 г нядаўна стала вядома, што ўжо ёсць захады „па скліканьні ў Нясьвіжы з'езда Радзівілаў".

**Міхась КАДЫКА.**

# Мястэчкі

На Беларусі мястэчкі ўзніклі ў ХІУ ст., але іх большасць – пасля 1588 года, калі Статут Вялікага княства Літоўскага скасаваў прывілеі на іх стварэнне. Пад гаспадарчым поглядам яны займалі прамежкавае становішча паміж горадам (местам) і вёскай. Мелі права, і гэта іх адрознівала ад вёскі, на гандаль рамяство, промыслы і кірмаш. Яны з'яўляліся гандлёва – рамяствовымі сёламі, у якіх праз торгі адбываўся абмен сялянскіх прадуктаў на тавары для гаспадаркі і хатняга ўжытку. Ад гарадоў мястэчкі адрозніваліся перш за ўсё пераважнай роляй сельскагаспадарчых заняткаў у жыцці насельніцтва і меншай колькасцю жыхароў. Акрамя гэтага, мястэчкі выконвалі ролю асяродка адміністрацыі і рэлігійнага культу.

За ХУІ ст. на Беларусі паўстала 140 новых мястэчак, з якіх восем на тэрыторыі Баранавіцкай зямлі: Гарадзішча, Ішкальдь, Крошын, Люшнева, Моўчадзь, Мыш, Палонка, Сталовічы. Як правіла, усе мястэчкі ўзніклі на месцы раней існаваўшых феадальных двароў, якія былі гаспадарчымі і адміністрацыйнымі цэнтрамі буйных феадальных маёнткаў ці комплексаў маёнткаў. Асноўнай прычынай узнікнення мястэчак быў рост буйнага землеўладання, што вяло за сабой эвалюцыю форм феадальнай рэнты, к павелічэнню долі грашовай рэнты. Гэты працэс паказвае на развіццё і ўдзел сельскага насельніцтва ў тавараабмене. Такія ж працэсы ляжалі ў аснове ўзнікнення мястэчак Баранавіцкай зямлі. Амаль усе яны ўзніклі ў непасрэдным суседстве з дварамі феадала.

Іх стварэнне афармлялася, у сваёй большасці, граматамі вялікага князя, якія вызначалі прывілеі таго ці іншага мястэчка, павіннассці жыхароў і структуру кіравання. Найпершым мястэчкам, якое паўстала на тэрыторыі нашага краю, мабыць, патрэбна лічыць Крошын. Прывілей на яго стварэнне атрымаў на рубяжы ХУ–ХУІ ст. яго ўладальнік Дзмітрый Пуцята (? – 1505 г.) Ускосным падцверджаннем гэтаму можа служыць ліст караля і вялікага князя Жыгімонта і ад 18 жніўня 1521 года, які дазваляў татарыну князю Малікбашу аднавіць у памесці Крошын пры торгу корчмы: „Жыкгимонт Божю милости король Полский, вялики княз Литовский, Руский, княжа Пруское, Жомоитский и иных. Бил нам чолом княз Маликбаша о том, што есмо дали ему двор наш Крошыно, совсим с тым как ся тот двор здавна в собе мел, на вечность и он поведил перед нами, иж там у Крошыне ест торг и корчмы бывали и бил нам чолом обыхмо и тыми разы дозволили ему у Крошыне корчмы мети, как же и посол велики брата нашего Маетме Кирея царя Перекопского Овлияр Мурьза о том нас за ним ждал, а поведал нам его собе братом, ино мы на жеданне того великого посла Овлияр Мурзы и к тому на его челомбите то вчинили, дозволили есмо ему там у Крошыне корчмы мети, нехай он там корчмы у своем торгу маеть потому як иншы по торгам свои кормы мают."

У 1551 годзе ўладальніку Гарадзішча Яну Нямiровiчу быў выдадзены прывілей, які дазваляў будавадць у Гарадзішчы замак, закладаваць горад, мець торг і корчмы. Князю Аляксандру Чартарыйскаму ў 1561 годзе быў выдадзены прывілей, па якому яму дазвалялася арганізоўваць торгі ў Сталовічах. Атрымалі прыілей і ўсе астатнія мястэчкі.

Мястэчкі падзяляліся на дзяржаўныя (уласнасць казны ці вялікага князя) і прыватнаўладальніцкія. Як дзяржаўныя былі ўтвораны Мыш і Моўчадзь, але і яны пазней перайшлі ў катэгорыю прыватна – уладальніцкіх. У 1568 годзе Мыш стала ўласнасцю Я. Г. Хадкевіча, а у 60-х гадах ХУІІ ст. Моўчадзь перайшла да магната Уладзіслава Халецкага.

Сярод паселішчаў Беларусі, якія плацілі дробны дзяржаўны падатак згадваецца і мястэчка Моўчадзь. У ХУІ ст. яны плацілі ад 5 да 15 коп літоўскіх грошаў, а ў 1643 годзе плата ўжо складала ад 10 да 20 польскіх злотых.

Памеры мястэчкаў і колькасць насельніцтва ў іх былі розныя. Польскі гісторык С. Аляксандровіч сярод дзесяці невялікіх гарадоў называе Ішкальдзь. Зыходзячы з яго разлікаў, у Ішкальдзі ў канцы ХУІ ст. было 80 дымоў (дамоў), а ў 20–40 годы ХУІІ ст. – ужо 140. Аб колькасці дамоў у іншых мястэчках дадзеных мы не маем, але можна ўпэўнена сцвярджаць, што іх не было больш за 100. Выключэннем з'яўляецца мястэчка Мыш, якое патрэбна прылічаць да невялікіх гарадоў Беларусі, бо гэта буйны па тым часе абарончы, сацыяльна эканамічны, палітычны і культурны цэнтр нашай мясцовасці. Гэта знайшло сваё адлюстраванне і на картах Вялікага княства Літоўскага. К канцы ХУІІІ ст. да мястэчкаў, дзе было больш за 100 дамоў адносіліся, Мыш (181), Моўчадзь (142), Гарадзішча (127) і Ішкальдзь (108). У першай палавіне ХІХ ст. асяродкамі гандлю і буйнымі паселішчамі Баранавіцкай зямлі працягвалі заставацца мястэчкі: Мыш, Моўчадзь, Гарадзішча, астатнія мястэчкі былі зведзены расейскімі ўладамі да становішча звычайных сельскіх паселішчаў.

Гандлёвая дзейнасць мястэчак канцэнтравалася на штотыднёвых торгах. Праходзілі яны ў розныя дні, але часцей за ўсё ў нядзелю. Прыкладам, у 1556 годзе торг у Моўчадзі праходзіў у суботу. На торгах прадаваліся збожжа, жывёла, мяса, скуры, футра, рыба, мёд, лён, воск, пянька, садавіна і гарадоніна, масла, сыр, соль, вырабы сельскага і гарадскога рамяства. Вясковы люд выступаў у значнай меры як набыўца тавараў на мястэчковых торгах. За бочку солі, прывезенную з Крулеўца, адзін вясковец аддаў на Гарадзішчанскім торгу ў 1582 годзе 70 літоўскіх грошаў. Там жа туша ялавіцы была куплена за 60 грошай. У мястэчку Сталовічы ў ХУІІ – ХІХ ст. традыцыйна праходзіў найбуйнейшы ў Наваградскім павеце гандаль жывёлай.

З абслугоўваннем мясцовага рынку была цесна звязана дзейнасць корчмаў, якіх у мястэчках было шмат. Яны з'яўляліся дадатковай крыніцай даходу. для мяшчан і феадалаў. У ХУІІ–ХУІІІ ст. корчмы належалі феадалам, якія карысталіся правам прапінацый (манаполія на прадажу гарэлачных напіткаў) і здавалі іх у арэнду мяшчанам. Уладальнік Мышы Сапега ў 1730 годзе атрымаў з арэнды корчмаў 4500 злотых дахода. Такое становішча прыводзіла да павялічэння даходаў феадалаў, але значна пагоршыла становішча мяшчан і асабліва сялян.

З канца ХУІ ст. праз тэрыторыю Баранавіцкай зямлі праходзілі найгалоўныя гандлёвыя шляхи Вялікага княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай. Праз усю тэрыторыю Беларусі з усходу на захад праходзіў гасцінец з Полацка і Оршы праз Менск, Мір, Паланечку, Сталовічы, Мыш, Палонку, Слонім, Брэст, а далей у Кракаў і Варшаву. Па гэтай дарозе „...яко гостинцем великим, на который час многие ездят", паведамлялася ў адным з дакументаў за 1541 г. Ажыўлённай была так званая „дарога вялікая", якая звязвала Пінск з Вільняй, і якая ў Сталовічах перасякалася з Варшаўскім гасцінцам. Таму, менавіта ў Сталовічах існавала спецыльнае памяшканне – камора, дзе аглядалі тавары купцоў і ўстанаўлялі мыта (грашовы збор, пошліна), які браў скарб Вялікага княства Літоўскага з мясцовых купцоў за ўвоз і вываз за мяжу і з іншаземных купцоў за продаж тавараў на мясцовых рынках ці правоз па тэрыторыі дзяржавы. Суму мыта запісвалі ў мытныя кнігі. Да нашага часу зберагласяя мытная кніга Сталовіч за 1708 год, якая захоўваецца ў рукапісным аддзеле бібліятэкі народнай у Варшаве. Вялікую ролі ў гандлі мясцовых купцоў адыгрывалі і водныя шляхі, якія праз Шчару і Сэрвеч, а далей прыз Нёман звязвалі Баранавіцкую зямлю з Прыбалтыкай.

У мястэчках значнае развіццё атрымала рамеснае вытворчасць. Так, у 1650 годзе ў мястэчку Мыш працавала каля двух дзесяткаў рамеснікаў 13 спецыяльнасцей. Тут была наладжана апрацоўка скуры. дрэва, жалеза, мінеральнай сыравіны. Выраблялася адзенне, пража, зброя, будаўнічыя матэрыялы і шмат іншых тавараў, якія прадаваліся на мясцовым торгу ці вызваліліся ў другія мястэчкі на продаж. У больш дробных мястэчках рамеснікаў было не больш 3–5 спецыяльнасцей. Значнае месца ў гаспадарчым жыцці насельніцтва мястэчак займалі розныя промыслы. Многія займаліся рыбалоўствам, паляваннем, бортніцтвам. У конжным мястэчку было па некалькі млыноў.

Усё ж асноўным заняткам насельніцтва было земляробства. Занятак гандлям і рамяством спалучаўся з земляробствам і промысламі. Такое становішча вяло да сацыяльнай дэфірэнцыяцыі жыхароў. Усе насельніцтва мястэчак абкладалася павіннасцямі: паншчынай, чыншам, талокамі, гвалтамі і падводамі. Павіннасці мяшчан у карысць феадала выклікалі агранічэння камерцыйнай дзейнасці. Вялікая шчыльнасць мястэчак на Баранавіцкай зямлі выклікалі драбленне мясцовых рынкаў, што адмоўна адбівалася на іх развіцці.

Вялікую шкоду, развіццю эканамічнай дзейнасці ў мястэчках наносілі іх уладальнікі. Карыстаючыся вызваленнем ад пошлін, феадалы прымянялі прымусовую скупку экспартных тавараў у сялян з мэтай вывазу за мяжу. Ускладі на іх абавязак купляць у феадалаў прывезеныя тавары, выключая тым самым пасрэдніцтва паміж вёскай і мястэчкам. У Мышскім графстве сяляне павінны былі краэдытавацца выключна ў двары, а феадалу прадаваць лён і пяньку. Усе магнаты вялі шырокі гандаль сельскагаспадарчымі прадуктамі як з фальвалкаў, так і тымі, якія атрыманы ад сялян па налогу. Ва ўладанні Сапег сяляне і мяшчане былі дадаткова абкладзены салявым налогам. За кожныя чатыры валокі пасаджанага поля яны павінны былі купляць ад двара адну дзежку солі і плаціць за яе на 105 грошай больш таргавага кошту.

У мястэчках быў складаны нацыяльны састаў насельніцтва. Асноўную масу складалі беларусы (ліцвіны), якія да сярэдзіны ХУІІ ст. адыгрывалі вырашальную ролю ў палітычным і сацыяльна-эканамічным жыцці паселішчаў. З канца ХУІІ ст. пачынае павялічвацца доля жыдоў, якія паступова выцясняюць беларусаў з эканамічнай дзейнасці мястэчак. Аднак не ўсюль яныи складалі большасць насельніцтва нават у больш позні час. У 1835 годзе з 205 двароў Новай Мышы жыдоўскіх налічвалася 79. Там жа ў 1854 годзе 1460 жыхароў паселішча было 580 жыдоў. Ніводнае мястэчка Баранавіцкай зямлі не мела магндэбургскага права. Іх кіраваннем займаліся ўладальнікі або назначаныя імі войты. На працягу ХУІ – першай палавіны ХІХ ст. мястэчкі па сваёй гаспадарчай і сацыяльнай структуры займалі прамежкавае становішча паміж горадам і вёскай. Іх жыццядзейнасць – сведчанне развіцця прадукцыйных сіл і таварна-грашовых адносін феадальнага грамадства. Аднак супярэчнасці гэтага грамадства: цяжкія павіннасці жыхароў, эканамічныя і палітычныя прывілеі шляхты, феадальная анархія абумоўлівалі маруднасць развіцця адных, змяншэння памераў і разарэнне другіх мястэчак.

**Васіль ДУБЕЙКА.**

